# Голас Радзімы

№ 6 (1992)
5 лютага 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



**По цэху плаўна рухаецца робат. Вось ён спыняецца ля станка, прымае гатовыя дэталі і падае загатоўкі, пад'язджае да наступнага станка.**

**Такі цэх, дзе работа станочнікаў даручана аўтаматам, можна ўбачыць у мінскім навукова-вытворчым аб'яднанні «Планар».**

**Калектыў канструктарскага бюро гэтага прадпрыемства паспяхова вырашае задачы стварэння найноўшага абсталявання для дакладнага электроннага машынабудавання. Пошук і стварэнне новых узораў канструктары вядуць у максімальна сціслыя тэрміны.**

**Па выніках міжнародных выстаў прадукцыя «Планара» прызнана на ўзроўні лепшых сусветных узораў.**

**Летась вытворчасць робатаў павялічылася ў Савецкім Саюзе на 14 працэнтаў.**

**НА ЗДЫМКАХ: якасць прадукцыі даследуе спецыяліст па распрацоўцы новых прыбораў Георгій ЦІХАНЧУК; светларассейваючая пласціна— навінка ў асартыменце тавараў шырокага спажывання, якія выпускае «Планар». Яе вартасці ацэняць фотааматары; начальнік сектара Васіль МАЗАНІК, інжынер - канструктар Аляксандр ЛАБУНЕЦ, вядучы інжынер Уладзімір АРЛОЎ у лабараторыі канструктарскага бюро.**

**Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.**





## ЯК ІДЗЕ ПЕРАБУДОВА

У жыцці нашага грамадства адбываюцца буйныя змены, набіраюць сілу пазітыўныя тэндэнцыі. Ужо сёння сама атмасфера ў партыі і ў краіне, новы настрой у грамадстве мяняюць адносіны мільёнаў людзей да работы, даюць першыя—і вельмі важкія—практычныя вынікі.

Летась быў атрыманы самы высокі за 80-я гады рост нацыянальнага даходу і прамысловай вытворчасці. Прадукцыйнасць працы ў прамысловасці ў цэлым павялічылася на 4,6 працэнта пры планавым заданні 4,1 працэнта. За кошт гэтага атрымана 96 працэнтаў гадавога прыросту прадукцыі. Упершыню за многа гадоў адбылося прыметнае зніжэнне яе сабекошту.

У наяўнасці паляпшэнне ў развіцці аграрнага сектара. У параўнанні з сярэднегадавымі паказчыкамі мінулай пяцігодкі вытворчасць збожжа ў 1986 годзе павялічылася амаль на 30 мільёнаў тон, або на 17 працэнтаў; бульбы —амаль на 9 мільёнаў тон, або на 11 працэнтаў; цукровых буракоў—амаль на 3 мільёны тон, або на 4 працэнты; мяса—на 1,5 мільёна тон, або на 9 працэнтаў; малака—на 6,5 мільёна тон, або на 7 працэнтаў; яек—амаль на 6 мільярдаў штук, або на 8 працэнтаў.

Рэалізуюцца буйныя меры па паляпшэнню спраў у сацыяльнай сферы. Выпрацаваны і ўвасабляюцца ў жыццё новыя прынцыпы павышэння аплаты працы ў вытворчых галінах. Узяты цвёрды курс на адмову ад «ураўнілаўкі», на паслядоўнае захаванне сацыялістычнага прынцыпу размеркавання ў адпаведнасці з колькасцю і якасцю працы. Адначасова зняты неабгрунтаваныя абмежаванні індывідуальнай працоўнай дзейнасці. Для яе развіцця цяпер ствараюцца спрыяльныя ўмовы. У інтарэсах больш поўнага задавальнення патрэбнасцей насельніцтва заахвочваецца арганізацыя кааператываў у розных сферах вытворчасці і паслуг.

Узраслі аб'ёмы жыллёвага будаўніцтва, што дазволіла павялічыць увод жылля ў параўнанні з 1985 годам на 5,2 мільёна квадратных метраў. Больш пабудавана дзіцячых садоў і ясляў, школ, паліклінік і бальніц, устаноў культуры і быту.

Гэтыя і іншыя лічбы прыводзіліся ў дакладзе Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова на чарговым Пленуме Цэнтральнага Камітэта партыі, які адбыўся 27—28 студзеня 1987 года. На абмеркаванне Пленума было вынесена пытанне аб перабудове і кадравай палітыцы партыі.

Адзначаючы ў дакладзе бясспрэчныя поспехі і дасягненні СССР, М. С. Гарбачоў галоўную ўвагу сканцэнтраваў на аб'ектыўным крытычным аналізе недахопаў і праблем, якія належыць вырашыць на шляху перабудовы.

КПСС нацэльвае на тое, што перабудова павінна развівацца хутчэй—і развівацца праз расшырэнне дэмакратызму ва ўсіх сферах жыцця.

Адным з ключавых напрамкаў дэмакратызацыі грамадскага жыцця М. С. Гарбачоў назваў удасканаленне савецкай выбарчай сістэмы. Важна збавіць практыку вылучэння і абмеркавання кандыдатаў у дэпутаты Саветаў ад элементаў фармалізму, прадаставіць выбаршчыку магчымасць выказваць свае адносіны да большай колькасці кандыдатур, эфектыўна ўдзельнічаць у выбарчым працэсе на ўсіх яго стадыях.

Поспех перабудовы будзе ў рашаючай меры вызначацца тым, адзначыў савецкі кіраўнік, наколькі хутка і глыбока нашы кадры пранікнуцца разуменнем неабходнасці рэвалюцыйных перамен, наколькі рашуча, энергічна і кампетэнтна яны будуць дзейнічаць. Гэтым мэтам заклікана служыць актыўная, мэтанакіраваная, заснаваная на ленінскіх прынцыпах, адпавядаючая задачам перабудовы кадравая палітыка партыі. Яна абавязана ў поўнай меры адлюстроўваць асаблівасці сучаснай абстаноўкі, характар і задачы перажываемага моманту, забяспечваць высокую дзеяздольнасць усіх звенняў партыі і дзяржавы, усяго нашага грамадскага арганізма. Адносіны кадраў да перабудовы павінны стаць асноўным крытэрыем іх ацэнкі, падкрэсліў М. С. Гарбачоў.

На Пленуме ЦК КПСС былі прааналізаваны многія іншыя праблемы перабудовы і кадравай палітыкі партыі.

**УРАЧЫСТЫЯ СХОДЫ**

## СВЯТА ІНДЫЙСКІХ СЯБРОЎ

**Дню Рэспублікі Індыі быў прысвечаны ўрачысты сход прадстаўнікоў грамадскасці Мінска. Адкрыў яго намеснік старшыні Мінскага гарвыканкома, старшыня праўлення гарадскога аддзялення Таварыства савецка-індыйскай дружбы М. Марыніч.**

**За гады незалежнасці Індыя дабілася вялікіх поспехаў, ператварылася ў індустрыяльную краіну з эканомікай, якая дынамічна расце, адзначыў у дакладзе першы намеснік міністра асветы БССР М. Круглей. У Савецкім Саюзе высока цэняць ролю Індыі ў руху недалучэння, яе дзейнасць, накіраваную на аздараўленне міжнароднай абстаноўкі, забеспячэнне раўнапраўнага супрацоўніцтва, падкрэсліў прамоўца.**

**У выступленні на сходзе прэзідэнт зямляцтва індыйскіх студэнтаў, якія вучацца ў Мінску, студэнт Белдзяржуніверсітэта Харыкумар Васудэван Наір выказаў савецкім людзям словы ўдзячнасці за шчырую дапамогу і падтрымку індыйскага народа.**

**САЦЫЯЛЬНАЕ РАЗВІЦЦЁ**

## У НОВЫЯ ДАМЫ

**Справілі наваселле ў добраўпарадкаваных дамах сядзібнага тыпу 20 сямей калгаса імя Жалязнякова Карэліцкага раёна. Цяпер гаспадарка мае дзве сотні камфартабельных кватэр. У панараму пасёлка, які ўзводзіцца па генеральнаму плану на сродкі калгаса, прыгожа ўпісаліся гандлёва - бытавы комплекс з некалькімі магазінамі, сталовай, пральнымі аўтаматам, дзіцячы сад, Дом культуры, сярэдняя школа, парк. Заасфальтаваны вуліцы, у дамы падводзіцца прыродны газ.**

**На балансе калгасаў і саўгасаў Гродзеншчыны цяпер налічваецца каля 20 тысяч кватэр. Перавага апошнім часам аддаецца будаўніцтву зборных катэджаў сядзібнага тыпу з усімі камунальнымі выгодамі. На іх выпуску спецыялізуецца буйны міжкалгасны домабудаўнічы камбінат.**

**СУПРАЦОЎНІЦТВА**

## ТРЫВАЛА І БЕЗ ЦЭМЕНТУ

**Узводзіць будынкі з пяску і вапны змогуць будаўнікі, скарыстоўваючы новую прадукцыю Гродзенскага камбіната будаўнічых матэрыялаў. На прадпрыемстве пачала дзейнічаць доследна - прамысловая лінія па выпуску трывалых канструкцый без цэменту. Такая ж вытворчасць пачата і на прадпрыемстве «Бетоннорд» у горадзе Мільмерсдорфе ў ГДР.**

**Між гэтымі падзеямі ёсць прамая сувязь: тэхналогія распрацавана сумесна спецыялістамі Савецкага Саюза і Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. На яе падставе калектыў Гродзенскага камбіната ўжо адгрузіў для зборкі дамоў сядзібнага тыпу больш за 50 тысяч кубаметраў новых канструкцый, знізіўшы іх сабекошт на трэць.**

**РАСПРАЦОЎКІ ВУЧОНЫХ**

## РЭЦЭПТ ПАДКАЗАЛА ПРЫРОДА

**Дзіўная здольнасць суставаў чалавека і жывёлін бездакорна працаваць многія дзесяцігоддзі навяла вучоных Інстытута механікі металапалімерных сістэм Акадэміі навук Беларусі на думку глыбока вывучыць гэты феномен і паспрабаваць змадэліраваць састаў біялагічнай змазкі.**

**Праведзеныя сумесна з вучонымі Беларускага НДІ траўматалогіі і артапедыі даследаванні паказалі, што даўгавечнасць прыроднага «вузел трэння» набывае дзякуючы вадкакрышталічным уласцівасцям сустаўнай змазкі. Яе малекулы арыентуюцца такім чынам, што асобныя іх блокі лёгка слізгаюць адносна адзін аднаго толькі ў адной плоскасці. Зрушвацца ў іншых напрамках ім перашкаджае структура, уласцівая цвёрдаму целу. Таму біязмазка і не выцясняецца пад нагрузкай з зоны трэння.**

**Пастаўленыя ў інстытуце доследы дазволілі атрымаць прысадку да змазачных маслаў, якая надае ім уласцівасці сустаўнай вадкасці. Выпрабаванні навінкі на Гомельскім заводзе пускавых рухавікоў, праведзеныя пры ўдзеле спецыялістаў прадпрыемства, паказалі, што яна намнога скарачае тэрміны абкаткі матораў.**

## ФАРБАВАЛЬНІК — З ТОРФУ

**Фарбавальнік для дрэва прыемнай арэхава-карычневай танальнасці распрацавалі вучоныя Інстытута торфу АН БССР. У параўнанні з прэпаратамі, якія выкарыстоўваюцца ў прамысловасці цяпер, ён прыкладна ўдвая таннейшы, мае больш натуральны колер, бясшкодны для здароўя.**

**Новы фарбавальнік не мае аналагаў у сусветнай практыцы. Ён паспяхова прайшоў прамысловыя выпрабаванні, прыняты міжведамаснай камісіяй. Цяпер у Кастрамской вобласці ўзводзіцца прадпрыемства, дзе па прапанаванай беларускімі вучонымі тэхналогіі будзе вырабляцца гэты прэпарат.**

**МАЛАДЫМ ЧЫТАЧАМ**

## АЎТАР КНІГІ — РАБОЧЫ

Яшчэ адной гранню раскрыўся талент Героя Сацыялістычнай Працы Яўгена Клімчанкі. Слесар-інструментальшчык Мінскага трактарнага завода напісаў кнігу «Гонар замалада шанаваць». Яе выпусціла ў свет рэспубліканскае выдавецтва «Юнацтва».

Кадравы рабочы, чыя працоўная біяграфія ўжо сорак гадоў звязана з гэтым прадпрыемствам, неназойліва, задушэўна расказвае аб сваім жыцці, аб тым, як ён, змяніўшы салдацкі шынель на рабочую спяцоўку, стаў членам маладога калектыву трактарабудаўнікоў.

Ветэрану працы, прызнанаму майстру сваёй справы, чалавеку вялікага жыццёвага вопыту ёсць аб чым расказаць, што параіць моладзі.

Я. Клімчанка не адзіны з трактаразаводцаў, чые творы выйшлі асобнымі кнігамі. Свае зборнікі выпусцілі інжынер М. Вяршынін, служачая В. Маргуліс, рабочы К. Жук. Вершы і проза завадчан увайшлі ў зборнікі «Наследнікі», «Крыніцы» і іншыя. Удасканальваць літаратурнае майстэрства ім дапамагае творчае аб'яднанне «Полымя», якое створана на прадпрыемстве.

**ПТУШКАГАДОЎЛЯ**



**18 тон дыетычнага мяса штодня пастаўляе ў гандаль Віцебская бройлерная фабрыка.**
**НА ЗДЫМКУ: у адным з цэхаў, дзе вырошчваюць бройлераў.**

## КАМБІНАТ-ГІГАНТ

**Мінскае аб'яднанне па птушкагадоўлі летась паставіла спажыўцам 464 мільёны яек і 5 654 тоны дыетычнага мяса. Гэта адно з буйнейшых прадпрыемстваў такога роду ў нашай краіне. Тут утрымліваецца больш за тры мільёны курэй. Комплексная механізацыя і аўтаматызацыя, якая адпавядае лепшым стандартам сучаснага навукова-тэхнічнага прагрэсу, фактычна ліквідавала некваліфікаваную працу. Адзін аператар даглядае 80 тысяч курэй. Усе працаёмкія працэсы ўзялі на сябе аўтаматы. Яны падтрымліваюць патрэбны светлавы рэжым і мікраклімат у памяшканнях. Гатуюць і раздаюць кармы, прыбіраюць. Збіраюць і ўкладваюць у кардонныя скрынкі яйкі. Вельмі памагае птушкаводам прамысловае тэлебачанне. З дапамогай тэлекамер кантралюецца сартаванне і загрузка ў спецыяльныя кантэйнеры гатовай прадукцыі.**

**СУВЕНІРЫ ДА ЮБІЛЕЮ**



**Дзесяткі відаў разнастайных сувеніраў распрацавалі мастакі Слонімскага вытворчага аб'яднання мастацкіх вырабаў да 70-годдзя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Хутка на прылаўкі магазінаў паступяць чаканка і пано з дрэва, дэкаратыўныя вымпелы, вышытыя ручнікі і абрусы, выраблены ўмельцамі прадпрыемства.**

**НА ЗДЫМКУ: мастакі-распрацоўшчыкі новых сувенірных вырабаў (злева направа) Юлія ШАЦКІХ, Леся НЮНЯ і лякальшчыца Валянціна ШУХНО.**

**ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ**

ХОЙНІКІ. Новая бібліятэка з'явілася тут у трэцяй сярэдняй школе. У ёй кнігі з аўтографамі і пажаданнямі вядомых беларускіх пісьменнікаў К. Крапівы, М. Лужаніна, І. Шамякіна, Р. Барадуліна. Перадаў іх у дар школе, а таксама сваю прэмію Ленінскага камсамола Беларусі, прысуджаную за зборнік вершаў «Мой дзень зямны», паэт Мікалай Мятліцкі, ураджэнец гэтых мясцін.

МАЗЫР. Першыя наборы мэблі «Палессе» адправіў у гандлёвую сетку калектыў аб'яднання «Мазырдрэў». Гэтая навінка павінна спадабацца пакупнікам.

МАЛАДЗЕЧНА. У мясцовай раённай бальніцы пабудаваны пяціпавярховы тэрапеўтычны корпус. Усяго ў 1986 годзе толькі за кошт дзяржаўных капітальных укладанняў у рэспубліцы ўзведзена больш за 50 бальніц і паліклінік.

БЯРОЗА. На рацэ Ясельда завершана будаўніцтва буйнейшай у рэспубліцы рыбнай гаспадаркі «Сялец».

## МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА АКАДЭМІІ НАВУК БССР

# ВЫГАДА—УЗАЕМНАЯ



Міжнародныя сувязі Акадэміі навук Беларускай ССР маюць невялікую гісторыю развіцця, але за параўнаўча кароткі тэрмін акадэмія стала адной з буйнейшых навуковых устаноў Савецкага Саюза, якая ажыццяўляе шырокае супрацоўніцтва з замежнымі навуковымі цэнтрамі. Толькі ў мінулым годзе вучоныя АН БССР пабывалі ў трыццаці замежных краінах. Геаграфія камандзіровак шырокая — ад блізкай Польшчы да далёкай Японіі.

Сёння 27 інстытутаў Беларускай акадэміі навук вядуць сумесныя даследаванні са 100 навуковымі арганізацыямі сацыялістычных, капіталістычных краін і краін, што сталі на шлях развіцця. Гэтыя даследаванні ахопліваюць квантавую электроніку і лазерную спектраскапію, ядзерную энергетыку і кібернетыку, біятэхналогію і ахову экасістэм — усяго 76 праблем і асобных тэм.

Характар міжнародных кантактаў даволі разнастайны. Гэта і абмен інфармацыяй, і вывучэнне вынікаў даследаванняў адзін аднаго, і дагаворы аб двухбаковым і шматбаковым супрацоўніцтве, і дапамога ў падрыхтоўцы спецыялістаў па той ці іншай галіне навукі... Напрыклад, у 1973 годзе прадстаўнікі Акадэмій навук Беларусі, Балгарыі, Венгрыі, Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, Манголіі, Польшчы і Чэхаславакіі падпісалі Пагадненне аб заснаванні ў Мінску Міжнароднага цэнтра для павышэння кваліфікацыі навуковых кадраў па праблеме «Цепла- і масаабмен». З часам у яго ўвайшла Акадэмія навук Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі, разглядаецца пытанне аб далучэнні Нацыянальнага цэнтра навуковых даследаванняў В'етнама. За 14 год ужо праведзена 59 розных вучэбных мерапрыемстваў, у якіх прынялі ўдзел 1 170 замежных вучоных. А ўсяго па лініі АН БССР толькі летась нашу рэспубліку наведала больш за 500 замежных вучоных і спецыялістаў. Адны з іх праходзілі стажыроўку, другія займаліся даследчай дзейнасцю, трэція выступалі з лекцыямі альбо вывучалі работу нашых інстытутаў.

Усё часцей акадэмічныя інстытуты падпісваюць дагаворы аб супрацоўніцтве не толькі з калектывамі замежных Акадэмій навук, але і з неакадэмічнымі цэнтрамі, прадпрыемствамі. Так, плённыя кантакты наладжаны з Дзяржаўным даследчым інстытутам машынабудавання ЧССР, Інстытутам атамнай энергетыкі ПНР, Вышэйшай нацыянальнай школай Францыі па механіцы і аэрадынаміцы, Каралеўскім тэхналагічным інстытутам Швецыі, універсітэтам горада Куопіо (Фінляндыя)... Даўнія кантакты з калегамі ЧССР, НРБ, ГДР, ПНР мае Інстытут мовазнаўства імя Я. Коласа АН БССР. Спецыялісты Інстытута тэхнічнай кібернетыкі разам з нямецкімі калегамі стварылі праграмы аўтаматызаванага праектавання шэрагу тэхналагічных працэсаў. Цікавыя сумесныя даследаванні правялі фізікі нашай рэспублікі з вучонымі Сегедскага універсітэта імя А. Йожэфа (Венгрыя).

Такія кантакты выгадныя і нам, і нашым партнёрам. Напрыклад, супрацоўніцтва беларускіх і французскіх спецыялістаў дазволіла абодвум бакам хутка і з мінімальнымі фінансавымі выдаткамі стварыць для машынабудавання матэрыялы з палепшанымі эксплуатацыйнымі ўласцівасцямі. Зразумела, што і мы, і французы маглі б выканаць гэтыя работы самастойна. Аднак часу яны занялі б больш і каштавалі б значна даражэй.

Яшчэ прыклады. Вучоныя нашага Інстытута біяарганічнай хіміі разам з калегамі з Цэнтральнага інстытута малекулярнай біялогіі Акадэміі навук ГДР распрацавалі арыгінальныя метады сінтэзу высокаэфектыўных тэрмінатараў біясінтэзу ДНК — важных інструментаў даследаванняў па геннай інжынерыі. Вынікі гэтай работы знойдуць шырокае прымяненне ў генна-інжынерных даследаваннях у СССР і сацыялістычных краінах, а таксама дадуць магчымасць краінам — членам СЭУ значна скараціць імпарт такіх тэрмінатараў.

Вучоныя ГДР стварылі унікальныя лазерныя спектрометры, якія будуць пастаўляцца ў шэраг краін, у тым ліку і ў СССР. А 80 дыэлектрычных люстраў для гэтых спектрометраў вырабілі і перадалі нямецкім калегам супрацоўнікі Інстытута фізікі Акадэміі навук БССР.

Нашы навукоўцы выконваюць таксама работы ў рамках міжнародных праграм ЮНЕСКО, такіх, напрыклад, як геалагічная карэляцыя, «Чалавек і біясфера», гідралагічная праграма. Акадэмія навук Беларусі ўносіць значны ўклад у дзейнасць многіх міжнародных эканамічных і навукова-тэхнічных арганізацый — Міжнароднага агенцтва па атамнай энергіі, Міжнароднай асацыяцыі па вывучэнню і распаўсюджванню славянскіх культур, Міжнароднага цэнтра па цепла- і масаабмену і іншых. Наш удзел тут выяўляецца як у ажыццяўленні непасрэднага рэгулярнага супрацоўніцтва, так і ў прадстаўніцтве на міжнародных кангрэсах, канферэнцыях, сімпозіумах, пасяджэннях, якія склікаюцца гэтымі арганізацыямі. Дарэчы, многія мерапрыемствы міжнародных арганізацый праводзяцца якраз на базе Акадэміі навук БССР.

У апошнія гады значна актывізавалася дзейнасць беларускіх навуковых устаноў у галіне вынаходніцкай і патэнтна-ліцэнзійнай работы. Вынаходкі нашых вучоных запатэнтаваны ў многіх краінах свету. На распрацоўкі АН БССР прададзены ліцэнзіі ў Італію, Фінляндыю, Швейцарыю, Швецыю, Японію, ГДР, ЧССР і іншыя краіны. Дасягненні вучоных акадэміі рэгулярна прадстаўляюцца на міжнародных выстаўках і кірмашах.

Аб аўтарытэце беларускай навукі можа сведчыць і той факт, што вучоныя нашай рэспублікі ўваходзяць у склад кіруючых органаў міжнародных арганізацый. Некаторыя дзеячы беларускай навукі за ўклад у развіццё міжнароднага супрацоўніцтва ўдастоены ўзнагарод: акадэмік АН БССР Уладзімір Белы ўзнагароджаны французскімі медалямі імя Вакансона і імя Жакара, прэзідэнт АН БССР акадэмік Мікалай Барысевіч — польскім медалём М. Каперніка і залатымі медалямі Славацкай і Чэхаславацкай акадэмій навук, акадэмік АН БССР Барыс Сцяпанаў — венгерскім медалём імя А. Йожэфа.

Пераацаніць значэнне актыўнага міжнароднага супрацоўніцтва ў галіне навукі і тэхнікі немагчыма: яно відавочна, неаспрэчна, выгадна ўсім, хто ў ім удзельнічае. У цэлым мы задаволены тым, як развіваюцца нашы кантакты з замежнымі калегамі.

Супрацоўніцтва вучоных садзейнічае не толькі прагрэсу навукі, але і паглыбленню ўзаемаразумення паміж народамі іх сумеснай барацьбе за мір. Вучоныя Беларускай акадэміі навук добра разумеюць гэта і выступаюць за самыя цесныя сувязі.

**Алег ПЫШНЕНКА,**
**загадчык замежнага аддзела АН БССР.**

## *ГАСПАДАРЫ ПАЛЕСКАЙ ЗЯМЛІ*

# СТАРШЫНЯ КАЛГАСА: ДЫЯЛОГІ З ПОЛЕМ

Генрых Траццяк — пяцідзесяцігадовы вучоны, старшыня беларускага калгаса імя Ламаносава (Брэсцкая вобласць), заклапочаны: трактар «Беларусь», працуючы на сухіх глебах, утварае на кожным гектары зямлі па 13—14 тон пылу. А на тарфяных глебах, якіх у заходніх раёнах Беларусі вельмі шмат, і ўсе 350 тон.

— У агранамічнай літаратуры нават з'явіўся тэрмін «машынная дэградацыя глебы», — гаворыць старшыня. — Мы ходзім, ездзім, ціснем жывое. А тэхнікі становіцца ўсё больш і больш. Ад гэтага ворныя і нават падворыўныя слаі зямлі робяцца залішне цвёрдымі.

Траццяк — зусім не песіміст і не рэтраград: наватарства вучонага спалучаецца ў ім з сялянскай асцярожнасцю. Яго развážанні не азначаюць, што трактары, у першую чаргу колавыя, трэба зусім зняць з палёў.

— Зразумела, не! — гаворыць Траццяк. — Калі б у нас у краіне не было 2,6 мільёна цяперашніх машын, мы не мелі б хлеба надзённага. Я сам, — успамінае вучоны, — калі аднавяскоўцы выбралі мяне старшынёй калгаса, першае, што зрабіў, узяўся за павышэнне энергаўзброенасці. Калі дзесяць год назад на аднаго работніка прыпадала 10—12 конскіх сіл, дык цяпер — 23—24. Дзякуючы гэтаму калгасны гадавы даход вырас у тры разы і складае сёння адзін мільён 350 тысяч рублёў у год. Ураджаі збожжавых падняліся ў гаспадарцы з 20 да 40 цэнтнераў з гектара. Але як аграном па спецыяльнасці (Траццяк у 1969 годзе скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію), я перакананы, што калі ў бліжэйшыя гады не прыняць кардынальных мер, дык машынная дэградацыя глебы прывядзе спачатку да частковага, а затым да поўнага яе змярцвення. Тэхніка — яна і карысць, яна ж і шкода.

Занепакоенасць агранома, кіраўніка аднаго з лепшых беларускіх калгасаў, зразумелая: сельская гаспадарка — гэта тая сфера, дзе трэба ў канкрэтных, часцей за ўсё складаных умовах шукаць і знаходзіць найбольш эфектыўныя прыёмы і метады атрымання ўраджаяў, увесь час помнячы пра стан «здароўя» маці-зямлі, ад якой залежыць усё, што расце на ёй.

Карацей, сельскай гаспадарцы сёння патрэбна тэхніка, якая б не калечыла глебу, не рабіла яе залішне цвёрдай, не расцірала камякі ў пыл, не псавала травастой на лугах і пашах.

Другое немалаважнае пытанне — дэтальнае вывучэнне і ўмелае выкарыстанне прадукцыйнага патэнцыялу раслін, інакш кажучы «біялагізацыя» вытворчасці збожжавых. Так акрэслілі вучоныя гэтую праблему: рытм развіцця раслін трэба своечасова заўважыць і падтрымаць — угнаеннямі, гербіцыдамі, падачай вільгаці.

— Нават новая тэхніка не паможа захаваць урадлівасць зямлі, калі мы забудзем хаця б на некаторы час пра яе «біялагізацыю», — гаворыць Генрых Траццяк. І ілюструе гэта такім прыкладам. Калі пасля сканчэння акадэміі ён прыехаў на сваё Палессе (калгас імя Ламаносава знаходзіцца ў палескай зоне, дзе праводзілася інтэнсіўная меліярацыя), дык шмат дзе пабачыў маларадасную карціну: меліяратары, асушыўшы балоты, змянілі рэжым землекарыстання, а наладзіць раслінаводства ў новых экалагічных умовах, кіраваць ураджаямі, а тым больш праграміраваць іх селяніну па першым часе не ўдавалася. Вось і пасыпаліся «шышкі» на галаву меліяратараў, маўляў, яны перастараліся, загубілі зямлю, гэта паўплывала на ўраджайнасць, якая стала зніжацца.

Многа часу пайшло на тое, каб палескі селянін асвоіў агранамічныя прыёмы на меліяраваных землях. Сёння не знойдзеш на Палессі калгасаў, якія б атрымлівалі на круг менш за 30 цэнтнераў збожжавых з гектара. А ёсць і такія, дзе 50—60 цэнтнераў не рэкорд.

— Як ішлі да гэтага? — спытаў я ў Траццяка.

— Вучыліся ў прыроды, у зямлі, — кажа старшыня. — І ў навукі. Давялося шукаць новыя шляхі біялагічнай прадукцыйнасці палескай глебы. Сталі выводзіць не проста ўраджайныя, а стабільныя сарты, укараняць мінімальную апрацоўку палёў, палоснаконтурную арганізацыю тэрыторый. Ды яшчэ палі спалучалі з ляснымі культурамі і садам, вучыліся даваць вільгаць «па камандзе» саміх раслін, павышалі прадукцыйнасць лугоў і пашаў...

Генрых Траццяк наладзіў цесныя сувязі з навукова-даследчымі інстытутамі Беларусі, якія праводзяць вопыты на яго калгасных палях. Спачатку гэта была работа ў маштабах калгаса, потым вучоныя прыйшлі і ў брыгады: землі ў гаспадарцы самыя розныя, трэба праверыць, якая культура і дзе лепш расце. З дапамогай вучоных, уласных назіранняў Траццяк адпрацаваў такую тэхналогію калгасных палёў, якая калі і не выключыла поўнасцю прымяненне ядахімікатаў, то да мінімуму скараціла іх унясенне. Калгасныя землі цяпер забяспечаны фосфарам і каліем значна вышэй за сярэдні ўзровень. Тэхналагічныя карты праграміравання ўраджаяў, складзеныя аспірантамі сельскагаспадарчай акадэміі, паказваюць не толькі нормы ўнясення ўгнаенняў, але і іншыя параметры агратэхнікі.

— Недалёка той дзень, калі гэтыя землі будуць даваць на круг і па 60 цэнтнераў збожжа, — гаворыць кандыдат сельскагаспадарчых навук Генрых Траццяк. — Трэба толькі зямлі «нагуляць» урадлівасць. Гэтага можна дасягнуць, умела спалучаючы мінеральныя і арганічныя ўгнаенні. І абавязкова трэба выконваць тры прынцыпы: своечасова, пастаянна, абгрунтавана. Што гэта такое? Расшыфрую. Своечасова — значыць праводзіць унясенне ўгнаенняў тады, калі таго патрабуе расліна; пастаянна — рабіць гэтыя падкормкі пафазна, на працягу вегетацыйнага перыяду; абгрунтавана — не «колькі магу, столькі і дам», а з улікам утрымання пажыўных рэчываў (азоту, у прыватнасці) у расліне.

Вядома, самі па сабе высокія зборы збожжа — гэта яшчэ не ўсё. Выяўляецца ў апошні час адмоўная залежнасць паміж ураджайнасцю і ўтрыманнем у збожжы бялку: чым больш атрымліваюць збожжа з гектара, тым менш у ім бялку. Пераадолець гэтую тэндэнцыю цяжка, але магчыма. Як паказалі эксперыменты Траццяка, рашаючы перыяд, калі накопліваецца ў коласе пратэін (раслінны бялок), — гэта пара перад каласаваннем. Менавіта ў гэты момант і важна, як кажуць селекцыянеры, павялічыць і ў раслінах «рэзервуар» пратэіну.

— Але ж расліна не можа сказаць пра свае жаданні, — гаворыць вучоны. — Калі, якой і колькі «ежы» ёй трэба, яна маўчыць пра гэта. Значыць, трэба навучыцца весці з гэтым маўчуном пастаянную размову з дапамогай аграхімічнай службы...

**Рыгор КОЛАБАЎ.**

## РАБОЧАЯ СЛАВА АЛЯКСАНДРА ГАРОШКІ

# ПЕРАД САБОЙ І ЛЮДЗЬМІ

ДА ФРЭЗЕРОЎШЧЫКА Мінскага прыборабудаўнічага завода імя У. І. Леніна Аляксандра Гарошкі зведваеш павагу ўжо з першых хвілін знаёмства: статны, валявы, рашучы погляд, адказвае на пытанні амаль адразу, але ўзважваючы кожнае слова. Памыліцца можна толькі ва ўзросце гэтага чалавека.

— Мне ідзе шосты дзесятак,— расказвае пра сябе Аляксандр Іванавіч.

І, заўважыўшы недавер у маіх вачах, з усмешкай дадае:

— Не здзіўляйцеся, усё жыццё займаюся спортам. Таму, як кажуць, у форме.

Рыюся ў сваёй памяці і прыгадваю яго прозвішча. Так, на II Спартакіядзе народаў СССР Аляксандр Гарошка абараняў гонар Беларусі. У камандных веласіпедных гонках стаў прызёрам. Заслужыў званне майстра спорту СССР.



Яму прадракалі вялікую спартыўную будучыню. Спецыялісты казалі, што пры такіх фізічных даных, упартасці і настойлівасці можна дамагчыся вунь якіх вяршынь. Але Аляксандр лічыў па-іншаму. Занятак спортам не быў для яго самамэтай. Спорт, на думку фрэзероўшчыка, падтрымлівае жыццёвы тонус, высокую працаздольнасць. Вось чаму і сёння Аляксандра Іванавіча можна ўбачыць і на хакейнай пляцоўцы, і на футбольным полі.

Дзяцінства ў Аляксандра Іванавіча было бязрадаснае. Юнацтва — цяжкае. Калі рыхтаваўся пайсці ў школу, пачалася вайна. Заставацца ў Мінску было небяспечна: штодзень на галовы людзей сыпаліся бомбы, фашысты падыходзілі да горада. Амаль адначасова пакінулі хату бацька і сын — Іван Гарошка пайшоў на фронт, Аляксандра разам з многімі дзецьмі эвакуіравалі ў Татарыю.

— Агульнае гора згуртавала нас,— успамінае Аляксандр Гарошка. — Жылі ў дзіцячым доме. Не заўжды хапала хлеба. Тады дзяліліся змёрзлай бульбінай. І ніхто з нас, малых, не скардзіўся. Як маглі, падтрымлівалі адзін аднаго. А калі было не вытрываць ад суму па родных, шукалі цёмны куток і паціху плакалі. Але так, каб ніхто не бачыў і не чуў, каб не падаць прыклад іншым.

Не маглі схаваць радасці, калі сказалі нам збірацца дадому. Пад'ехалі к Мінску. Амаль ніхто з нас не пазнаў родны горад. Казалі: «Нас падманулі. Прывезлі не туды». Увесь Мінск ляжаў у руінах. Рэдка каму з эвакуіраваных дзяцей пашчасціла сустрэцца з роднымі.

Не мінула гора і сям'ю Гарошкаў. Цяжкія раны атрымаў на фронце бацька Аляксандра. Скора яго не стала.

Што запомнілася з юнацтва?.. Не, не гульня ў футбол і не паветраныя змеі ў блакіце неба. Было не да гульняў. Нават не прыйшлося доўга вучыцца ў школе — трэба было дапамагаць маці. І Аляксандр ідзе на завод, вывучае такарную справу. З той пары запомнілася, як прыходзілася рана ўставаць, як стамляўся ў канцы рабочага дня. Але ніхто, нават маці, не чуў ад яго скаргі.

Ішлі гады. Аляксандр сталеў, набіраўся вопыту. І, як ні парадаксальна, станавілася ўсё складаней працаваць. Асабліва тады, калі перайшоў на прыборабудаўнічы завод імя У. І. Леніна і калі вырашыў памяняць прафесію. Стаў фрэзероўшчыкам.

— Неяк атрымаў карткузаданне,— расказвае Аляксандр Гарошка.— Пачаў разбірацца і за галаву схапіўся: там і сінусы, і косінусы, і вугал разлічыць трэба. Дзе мне з тым справіцца, калі за плячамі нейкія сем класаў. Пайшоў у вячэрнюю ш[illegible]у. Вучыўся, можна сказ[illegible], ужо разам са сваімі дзецьмі Сяргеем і Юрыем. Вучоба шмат што мне дала...

Я ўспомніў гутарку з адным з кіраўнікоў завода. Памятае ён, як на пр[illegible]рыемства паступілі нека[illegible] станкоў з лічбавым пра[illegible]амным кіраваннем. Каму даверыць складанае абсталяванне? Тут патрэбны людзі з вышэйшай адукацыяй.

Адзін са станкоў устанавілі ў цэху, дзе працаваў Гарошка. Неяк кіраўнік цэха Мартынаў заўважыў, што фрэзероўшчык стаў прыглядацца да новага абсталявання.

— Вырашыў я яго папярэдзіць,— кажа Мартынаў. «Дарэмна круцішся. Тут інжынера запрашаць прыйдзецца». А ён мне ў адказ: «Не багі гаршкі лепяць». Неяк непрыкметна і «прыбраў» да сваіх рук той станок, зараз працуе на ім...

Шмат добрых слоў пра фрэзероўшчыка сказаў начальнік цэха. Але ж не ў аднаго Гарошкі на заводзе, як кажуць, залатыя рукі. Чаму ж тады ордэны Леніна, Кастрычніцкай Рэвалюцыі, «Знак Пашаны», званне Героя Сацыялістычнай Працы атрымаў менавіта Аляксандр Іванавіч? Што гэта: шчаслівы выбар лёсу, нейкае шанцаванне?

Такое пытанне адрасую таварышу Гарошкі токару Дзмітрыю Чарвякову. Літаральна на яго вачах падымаўся фрэзероўшчык да вяршыні рабочай славы.

— Шанцаванне тут ні пры чым. Неяк чытаў савецкага пісьменніка Паустоўскага. Запомніліся яго словы: «Хіба можна згубіцца ў нашай краіне?» І сапраўды — была б добрая справа, будзе і вялікая слава. Заслужыў узнагароды Аляксандр. Ён — чалавек дзяржаўнай думкі...

Я папрасіў токара растлумачыць апошнія словы. І Дзмітрый Чарвякоў прывёў такія прыклады.

Некалькі гадоў назад у цэх паступіла высокапрадукцыйнае абсталяванне, а нормы выпрацоўкі павялічыліся ненамнога. Тады Аляксандр Гарошка звярнуўся да сваіх таварышаў па працы: «Ці не за так мы атрымліваем дзяржаўныя грошы?»

Не сказаць, што такая заява спадабалася літаральна ўсім, ёсць і такія, хто хоча мала рабіць, а больш атрымліваць, але большасць падтрымала. Хутка нормы выпрацоўкі былі перагледжаны.

У другім выпадку для лепшай арганізацыі працы ён бярэцца за стварэнне брыгады і ўзначальвае яе. Калі ў краіне быў узяты курс на перабудову і паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця, па ініцыятыве Аляксандра Іванавіча ўзначальваемы ім калектыў звярнуўся да адміністрацыі прадпрыемства з прапановай скараціць трох чалавек пры тым жа аб'ёме працы. Знатны фрэзероўшчык стварае на сваім участку пост якасці. Гэта значыць, што цяпер ні адна дэталь з дэфектам, зробленая тут, не трапіць у іншы цэх...

Павелічэнне нормы выпрацоўкі, скарачэнне рабочых у брыгадзе. І фрэзероўшчык, і яго таварышы быццам не атрымалі прыбаўкі да сваёй заработнай платы. У выйгрышы толькі дзяржава? Гэта думка памылковая. Цяпер ужо сам Аляксандр Гарошка тлумачыць:

— Даём мы, рабочыя, прадпрыемству прыбытак, атрымліваем і самі многае. Наш завод, напрыклад, у бягучай пяцігодцы сам пачаў будаваць жыллё, узводзіць у прыгараднай зоне прафілакторый, у стадыі завяршэння яшчэ адзін корпус на 120 месцаў у піянерскім лагеры, плануецца будаўніцтва дзіцячага сада-ясляў...

Яскравыя факты, якія сведчаць, што з'эканомленыя рабочымі грошы ідуць на карысць саміх жа рабочых і іх сем'яў.

Аляксандр Гарошка абраны дэпутатам Мінскага гарадскога Савета. Справа не толькі адказная, але і вельмі клапатлівая. Толькі не можа жыць без клопату гэты чалавек.

— Пашана і павага на прадпрыемстве, ад людзей. Ці не час і супакоіцца? — пажартаваў я ў заключэнне нашай гутаркі.

— Якраз цяпер мне не да спакойнага жыцця,— адказаў Аляксандр Іванавіч.— Некалькі гадоў назад у наш цэх прыйшоў працаваць старэйшы сын Сяргей. Стаў фрэзероўшчыкам. Не буду хваліцца, толькі казалі людзі, што атрымліваецца ў яго нядрэнна. І раптам Сяргей кідае завод і паступае ў школу міліцыі. Скончыў яе на «выдатна», не скажу, каб не радаваўся. Знайшоў ён сябе ў жыцці. Але...

Усю надзею ўсклаў на малодшага: вельмі хацеў, каб у сям'і быў яшчэ адзін рабочы. Здаецца, мая мара пачынае збывацца. Малодшы, Юрый, працуе цяпер побач са мной. Спецыяльнасць слесара прыйшлася яму па душы. Толькі гэта пакуль першыя крокі ў яго біяграфіі. І грош мне цана, калі я не выхаваю ў ім сапраўднага рабочага чалавека, калі не навучу Юрыя працаваць не горш за мяне. Каб не сорамна было перад людзьмі.

Сказаў — значыць, даб'ецца свайго. Такі ўжо цвёрды характар у Аляксандра Іванавіча.

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**

## Што? * Як? * Чаму?

**У апошні час у матэрыялах пад гэтай рубрыкай мы не раз асвятлялі розныя бакі сістэмы савецкай адукацыі. У тым ліку вышэйшай. Тэма сённяшняга:**

# ХТО ВУЧЫЦЦА Ў ВНУ?

Алена Гурская — першакурсніца гандлёва-эканамічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага інстытута народнай гаспадаркі імя В. Куйбышава. Магіляўчанка. Нарадзілася ў рабочай сям'і. Бацька — стропальшчык завода «Магілёўліфтмаш», маці — токар вытворчага аб'яднання «Строммашына». У Мінск, дзе знаходзіцца інстытут народнай гаспадракі, Алена прыехала пасля сканчэння дзесяці класаў сярэдняй школы. Вытрымаўшы ўступныя экзамены і конкурсны адбор, 17-гадовая дзяўчына стала студэнткай вышэйшай навучальнай установы.

Яе цяперашняя сяброўка па інстытуту Люцыя Далецкая прыехала ў сталіцу рэспублікі, каб атрымаць вышэйшую адукацыю, з Віцебшчыны. Выхоўвалася ў сялянскай сям'і. Бацька — механізатар, маці — загадчыца жывёлагадоўчай фермы калгаса «Прагрэс» Браслаўскага раёна. Дзякуючы добрым і выдатным адзнакам, атрыманым на ўступных экзаменах, яна таксама была залічана летась на першы курс гандлёва-эканамічнага факультэта.

«Што ж незвычайнага ў нашых біяграфіях?» — аднадушна і шчыра былі здзіўлены Алена і Люцыя. «І ў мяне бацька рабочы...» «І ў мяне маці сялянка...» Лес рук узняўся ў аўдыторыі БДІНГа, дзе займаецца адна з вучэбных груп.

Рэакцыя зусім натуральная для савецкай моладзі, якой невядома пачуццё сацыяльнай несправядлівасці ў галіне як адукацыі наогул, так і вышэйшай, у прыватнасці. Мы абсалютна ўпэўнены: не знайсці ніводнага чалавека ў сённяшняй 200-тысячнай сям'і беларускага студэнцтва, хто б мог заявіць, што для яго дзверы ў ВНУ адчыняліся з цяжкасцю з-за сацыяльнага паходжання. Такой праблемы не існуе і для тых, хто толь[illegible] [illegible]шчэ марыць аб вышэйшай адукацыі, а пакуль набывае асн[illegible] [illegible]едаў у сценах сярэдніх школ, працуе на фабрыках і заводах, у калгасах і саўгасах, іншых арганізацыях і ўстановах.

Але давайце звернемся да статыстыкі. Сацыяльны састаў студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў Савецкай Беларусі прыблізна адлюстроўвае сацыяльны састаў усяго насельніцтва н[illegible] рэспублікі. У аўдыторыях 33 беларускіх ВНУ займае[illegible] [illegible]ёння рабочых і сялян або дзяцей рабочых і сялян амаль дзве трэці ўсёй колькасці студэнтаў, чым не можа пахваліцца ніводная капіталістычная краіна свету. Напрыклад, па даных ЮНЕСКО, у Англіі дзеці рабочых і фермераў складаюць толькі 27 працэнтаў студэнтаў — намнога больш, чым у любой іншай развітой дзяржаве Захаду.

Вядома, і ў Беларусі так было не заўсёды. У дарэвалюцыйны час у нашым краі з атрыманнем вышэйшай адукацыі была зусім іншая карціна. Напрыклад, статут Горы-Горацкага земляробчага інстытута, які існаваў у сярэдзіне мінулага стагоддзя, дазваляў навучанне ў ім людзям выключна дваранскага паходжання. І толькі Савецкая дзяржава з першых год свайго існавання зрабіла найважнейшым звяном рэформы вышэйшай школы адкрыццё шырокага доступу ў яе тым, хто раней быў пазбаўлены магчымасці вучыцца ў ВНУ. Менавіта пасля сацыялістычнай рэвалюцыі расчыніліся дзверы універсітэтаў і інстытутаў перад дзецьмі рабочых і сялян. У гэтым — адно з карэнных адрозненняў савецкай вышэйшай адукацыі ад заходняй.

Няма ў нашай краіне і такога бар'ера на шляху да вышэйшай школы, як плата за навучанне. Для савецкіх студэнтаў навучанне бясплатнае — усе расходы поўнасцю (каля тысячы рублёў у год за чалавека) бярэ на сябе дзяржава. Да таго ж большая частка студэнтаў штомесячна атрымлівае матэрыяльную падтрымку — стыпендыю. Іншагароднім прадастаўляюцца месцы ў інтэрнатах, плата за пражыванне ў якіх мізэрная — 2—3 рублі ў месяц.

СССР, як вядома, — дзяржава многанацыянальная. Пятнаццаць рэспублік у яе саставе. І ў кожнай — свае ВНУ. Аднак па жаданню жыхары адной рэспублікі могуць атрымаць адукацыю ў навучальных установах другой. Зараз, напрыклад, дзесятую частку студэнтаў беларускай вышэйшай школы складаюць юнакі і дзяўчаты з РСФСР, Украіны, Літвы, Грузіі і г. д.

Няма ў нашай краіне, у адрозненне ад многіх капіталістычных, і дыскрымінацыі жанчын у вышэйшай адукацыі. У саставе студэнтаў ВНУ іх 52,4 працэнта. Вось які выгляд мае прадстаўленая статыстамі карціна падрыхтоўкі жанчын-спецыялістаў у вышэйшых навучальных установах СССР для самых розных сфер дзейнасці: прамысловасці, транспарту, будаўніцтва і сувязі — 42 працэнты, сельскай гаспадаркі — 34, эканомікі і права — 69, аховы здароўя, фізкультуры і спорту — 58, асветы і мастацтва — 70 працэнтаў.

Гэтыя, як і прыведзеныя вышэй, лічбы даволі пераканаўча характарызуюць грамадскі прагрэс нашай краіны, дасягнуты пры сацыялізме. Англійскі эксперт па сістэме савецкай адукацыі Н. Грант з універсітэта ў Глазга ў сваёй кнізе «Савецкая адукацыя» піша: «Мы ўсё яшчэ схільны лічыць адукацыю хутчэй справай асабістай выгады, чым сродкам прагрэсу грамадства. Многія з нас, калі прызнацца шчыра, схільны лічыць адукацыю раскошай або прывілеяй. У СССР жа адукацыя лічыцца справай першаступеннай дзяржаўнай важнасці».

*70 ЛЕТ ГАЗЕТЕ НАШИХ СООТЕЧЕСТВЕННИКОВ В США*

# ЕДИНСТВЕННАЯ. ПРОГРЕССИВНАЯ. РУССКАЯ

70 лет назад вышел первый номер прогрессивной газеты наших соотечественников в Америке — «Русский голос». В условиях США, где часто закрываются и более солидные издания, эта газета выходит без перерывов и задержек. Факт — беспрецедентный.

«Русский голос» — поистине голос десятков тысяч русских, белорусов, украинцев, которые в начале века вынуждены были покинуть родную землю, родной народ и поехать за океан на заработки. Газета сразу же стала их другом, советчиком, она писала обо всем, что происходило в мире в то тревожное, зачастую непонятное время. В одном из своих юбилейных номеров «Русский голос» отмечал, что он «начал свою деятельность 1 февраля 1917 года под гром орудий со всех фронтов сошедшего с ума мира и за два месяца до посылки американских юношей на мировую войну».

В октябре 1917 года в Петрограде рабочие и крестьяне взяли власть в свои руки. Что тут поднялось в мире! Враги новой России не брезговали никакой ложью, чтобы опорочить социалистическую революцию и ее вождя В. И. Ленина. «Русский голос» помогал малограмотным, оторванным от Родины людям разобраться в событиях, происходящих в мире, в их деревнях, селах, городах. Газета рассказывала своим читателям правду, она всегда служила и служит идеалам добра и справедливости, боролась за мир и взаимопонимание между народами. Много было трудностей на пути становления «Русского голоса». Но никогда, даже в самые тяжкие дни, он не сходил с избранного пути, не поступался принципами, которые в самом начале легли в основу его деятельности.

Именно эта прогрессивная направленность русского издания в Америке и обеспечила ему широкий круг читателей и подписчиков.

«Газета «Русский голос» не увиливает от истины и не приспосабливается, как это делают некоторые другие газеты в толковании тех или иных злободневных вопросов, — писал в свою родную газету ее читатель Е. Каленчиц. — Для нас, русских американцев, она играет особенно большую роль. Без «Русского голоса» каждый из нас чувствовал бы себя оторванным от общественной жизни. Наша газета выражает и защищает интересы рабочих масс, а не отдельных политических группировок».

У газеты всегда было много друзей среди выдающихся деятелей мировой культуры. Среди них советские писатели Сергей Есенин, Владимир Маяковский, Илья Эренбург, Константин Симонов, американский писатель Альберт Рис Вильямс, друг и коллега Джона Рида, автора книги о новой России «Десять дней, которые потрясли мир», популярный американский романист Эптон Синклер, преданный друг советских людей, всемирно известный певец Поль Робсон, народная артистка СССР, лауреат Ленинской премии Людмила Зыкина и многие другие. Владимир Маяковский приехал в США из Мексики в июле 1925 года. Состоялись его встречи с рабочими, молодыми поэтами, журналистами во многих городах страны. «...Кто видел Маяковского, кто слышал его, не может не говорить, что наша Родина не погибла, что она работает, идет вперед к поставленной цели, и эта цель все ближе и ближе», — писал «Русский голос» 19 августа 1925 года.

Опровергая клевету о Советском Союзе, газета печатала статьи инженера американской фирмы «Фрейн» Ф. Герцога, который жил и работал в Ленинграде. «Чудовищная ложь о принудительном труде в СССР, — писал он, — не может не возмутить всякого честного человека, независимо от того, как он относится к первой в мире республике трудящихся. Я побывал на многих ленинградских фабриках и заводах, в школах и больницах, много видел, много передумал и должен категорически


РУССКИЙ ГОЛОС

РУССКИЙ ГОЛОС

РУССКИЙ ГОЛОС

РУССКИЙ ГОЛОС

РУССКИЙ ГОЛОС

СВЕТ НАДЕЖДЫ

РУССКИЙ ГОЛОС

заявить, что только в Советском Союзе все меры правительства направлены к тому, чтобы обеспечить интересы трудящихся».

Во время второй мировой войны, когда Советский Союз боролся с фашистским нашествием, читатели «Русского голоса» собрали десятки тысяч долларов, посылали одежду, обувь, продукты, помогая своей сражающейся Родине. В 1947 году было собрано 25 тысяч долларов на восстановление в Минске университета, разгромленного гитлеровцами. Во время войны «Русский голос» постоянно печатал информацию о положении на фронте. Виктор Яхонтов, с именем которого неразрывно связана история «Русского голоса» как активного сотрудника, а потом и редактора газеты, выступал с многочисленными лекциями, комментируя военные события, призывая к сближению США и СССР.

О Викторе Яхонтове сами соотечественники говорили, что этот высокообразованный, убежденный в правоте и непобедимости дела революции человек был для них своеобразным факелом, свет которого помогал тысячам эмигрантов в их трудном пути на чужбине. В 1960 году Виктор Яхонтов организовал и возглавил первую группу туристов-земляков, пожелавших после многолетней разлуки вновь побывать на Родине. С тех пор поездки эти стали регулярными. В туристских группах много бывает белорусов. Они встречаются здесь со своими родственниками, бывают в деревнях, откуда когда-то уехали, а потом рассказывают друзьям или на страницах «Русского голоса» обо всем, что увидели в родных местах. На гостеприимной белорусской земле наши соотечественники всегда встречают самый теплый прием. Еще в 1979 году, побывав на Родине, Семен Трихонюк писал, что он гордится родной Белоруссией, достижениями родного народа. Его Отечество — это край счастливых и равноправных людей.

В газете печатаются материалы об экономике, культуре, истории республики, много фотографий белорусских городов, колхозов, заводов. Здесь можно прочесть очерк об Оршанском льнокомбинате и о международной встрече ветеранов войны в Бресте. Под рубрикой «Наш вернисаж» были помещены репродукции с картин известного художника Михаила Савицкого. Газета знакомит своего читателя со стихами П. Бровки, Е. Лось, А. Русецкого, А. Пысина и многих других белорусских поэтов. На страницах «Русского голоса» были напечатаны «Блокадная книга» А. Адамовича и Д. Гранина, а в прошлом году — повесть В. Быкова «Знак беды».

В 1985 году интервью «Русскому голосу» дал известный белорусский поэт Василь Зуенок, который [illegible]л в Нью-Йорке в составе делегаци[illegible]СР на сессии Генеральной Асса[illegible]леи ООН. Он ответил на разные вопросы о прошлом и сегодняшнем дне Белоруссии, а прощаясь, пожелал землякам, чтобы они не забывали своих корней, народа, из глубин которого вышли.

Единственная в США газет[illegible]усской погрессивной общественности «Русский голос» помогает тысячам наших земляков не терять связь с Родиной, поддерживает трепетный огонь любви к земле, которая дала им жизнь.

В наши дни, когда от двух великих держав — Советского Союза и Соединенных Штатов Америки — зависит, будет ли мирным завтрашний день земли, роль «Русского голоса» неизмеримо возросла. Потому что это одно из немногих изданий США, на страницах которого печатаются материалы, рассказывающие о миролюбивой внешней политике СССР, обо всех его мирных инициативах, предложениях, направленных на сохранение и упрочение мира на нашей планете.

Приятно сознавать, что в развитие и укрепление связей между СССР и США, в издание газеты внесли большой вклад выходцы из Белоруссии: Константин Радзи, Владимир Минкевич, Александр Смолей, Фред и Ольга Климовичи и многие другие.

В связи с 70-летним юбилеем горячо поздравляем коллектив редакции и всех друзей и читателей «Русского голоса». Желаем ему дальнейших больших успехов в его благородной и ответственной работе по сплочению соотечественников в борьбе за мир, воспитанию патриотических чувств к народу, из которого они вышли, любви к Родине отцов и дедов у их детей и внуков.



В выходной день. Фото Г. КАДЕТА.

**В ИНТЕРЕСАХ ВСЕГО СОЦИАЛИСТИЧЕСКОГО СОДРУЖЕСТВА**

# ПРЯМЫЕ СВЯЗИ

Идут первые дни работы предприятий в условиях внешнеэкономической реформы, проведенной в Советском Союзе. Одно из новшеств — интенсивное развитие прямых научно-производственных связей между предприятиями и организациями СССР и других стран — членов СЭВ. Такие отношения существовали и раньше, но были как бы экспериментальными. Ныне они стимулируются экономически, обрели прочную организационно-правовую базу, вписаны в хозяйственный механизм государства.

Теперь прямые связи могут иметь любые советские предприятия и объединения, пользующиеся правом выхода на внешний рынок, участвующие в выполнении Комплексной программы научно-технического прогресса в странах—членах СЭВ до 2000 года, а также получившие разрешение в своих министерствах, ведомствах или союзных республиках.

Прямые связи учитывают интересы как стран-партнеров, так и социалистического содружества в целом. Это использование преимуществ международной специализации и кооперирования производства, технический прогресс, повышение эффективности производственных мощностей, совместное планирование, исследования, сбыт, обмен опытом и на этой базе — обеспечение рынков стран—членов СЭВ высококачественной продукцией, в том числе той, за которую пока приходится платить валютой.

Установленный порядок дает партнерам далеко идущую хозяйственную самостоятельность. Они могут сами определять направления и конкретные цели сотрудничества, согласовывать номенклатуру и сроки взаимных поставок, проводить необходимые научно-исследовательские работы, обмениваться специалистами. Советским участникам прямых связей не устанавливается каких-либо централизованных заданий по кооперации, а согласованные с партнерами программы работ прямо включаются в их планы и результаты хозяйственной деятельности.

Партнеры сами согласовывают цены на кооперируемые комплектующие изделия и услуги. Однако цена на готовый продукт кооперации определяется на основе принципов, существующих в СЭВ, то есть должна быть сопоставима с мировой. Вся выручка в переводных рублях от операций по кооперации остается в распоряжении этих предприятий и пополняет их валютные фонды. Наконец, они могут получать кредиты в переводных рублях и валютах социалистических стран у Внешторгбанка, использовать их на приобретение в этих странах необходимых товаров и командирование специалистов.

Продукция, изготовленная по кооперации, реализуется в СССР по оптовым или договорным ценам, учитывающим ее технический уровень, потребительские свойства и эффективность. Советские внешнеэкономические ведомства и отраслевые министерства будут оказывать предприятиям, участвующим в таких связях, необходимую правовую, методическую и информационную помощь.

При разработке нового порядка прямых связей учитывается опыт первопроходцев в этой области — советских заводов АвтоВАЗ (Тольятти), «Красный пролетарий» (Москва), «Электросила» (Ленинград), «Светотехника» (Саранск), «Гомсельмаш» (Гомель) и их партнеров из Болгарии, Венгрии, ГДР, Польши, Югославии.

Осенью 1986 года между Советским Союзом и социалистическими странами были заключены межправительственные соглашения, поощряющие прямые связи. О масштабах проводимой работы свидетельствуют следующие данные. На начало 1987 года осуществлено 15 и намечалось 82 операции по прямым связям с Болгарией, 52 и 26 — с Венгрией, 52 и 104 — с ГДР, 132 и 148 — с Польшей, 18 и 83 — с Чехословакией, а всего к концу I квартала 1987 года их число должно превысить 700. Они охватывают совместное производство текстильных машин, кабеля, электротехники, тракторов, автомобилей, химикатов, сельскохозяйственной техники, станков и других товаров.

Максим РОЩИН.
(АПН).

*ВЫТВОРЧАЯ ТЭМА Ў САВЕЦКІМ КІНО*

# ПА ЗАКОНАХ МАСТАЦТВА

У КАРЦІНЕ маскоўскага рэжысёра Вадзіма Абдрашытава «Спыніўся цягнік» няма меладраматычнай інтрыгі, тут не распяваюць шлягеры і не танцуюць. Фільм гэты, зняты па сцэнарыю Аляксандра Міндадзе, выклікаў цікавасць публікі. Аўтары расказваюць аб аварыі на чыгунцы, аб прычынах, што прывялі да гібелі машыніста, які цаною свайго жыцця выратаваў пасажыраў поезда, аб тых, хто спрабуе дакапацца да сапраўдных прычын катастрофы, і аб тых, хто, прыкрываючыся высокімі словамі, перашкаджае пошуку ісціны...

Фільм «Спыніўся цягнік» распрацоўвае так званую «вытворчую» тэму». У савецкіх карцінах гэтага напрамку аналіз, здавалася б, прыватных фактаў са сферы вытворчасці падводзіць да аналізу праблем шырокага грамадскага маштабу. Па словах рэжысёра Юлія Карасіка, аднаго з піянераў гэтай тэмы, «тут ясна бачна непарыўная сувязь вытворчага і маральнага». Гэтай акалічнасцю ў многім можна растлумачыць цікавасць да карцін на вытворчую тэму.

Праўда, увага гледачоў да фільмаў такога тыпу не заўсёды была стабільная. Папулярнасць рэзка падала, калі сюжэт будаваўся на плоскім канфлікце «наватараў» і «кансерватараў», чыя экранная барацьба замыкалася ў дагматычных стэрэатыпах, не закранаючы па-сапраўднаму важных з'яў рэальнага жыцця.

Мяняліся часы — мяняўся характар сюжэтаў. На экране, зрэшты, больш марудна, чым у жыцці. «Рэабілітацыя» вытворчай тэмы звязана з прыходам на экран характараў і канфліктаў, народжаных шматграннай савецкай рэчаіснасцю. Узяць хаця б фільм «Прэмія» (сцэнарый Аляксандра Гельмана, пастаноўка Сяргея Мікаэляна), чый поспех за мяжой (не гаворачы ўжо аб унутраным пракаце) была вымушана прызнаць нават правая прэса на Захадзе. Так, рэцэнзент парыжскай «Фігаро» пісаў, што карціна «далёкая ад наіўнай прапаганды, вы глядзіце яе не толькі з разбуджанай цікавасцю, але канчаткова захоплены закранутай праблемай». Расказ, як і чаму будаўнічая брыгада адмовілася ад прэміі (рабочыя даказваюць, што перавыкананне плана — гэта падман, якім частка кіраўнікоў хоча прыкрыць сваё няўменне працаваць), выйшаў за рамкі чыстай вытворчасці. У «Прэміі» і шэрагу іншых вытворчых стужак адлюстраваны актуальныя пытанні жыцця савецкага грамадства ў цэлым. Паказ непарыўнасці праблем эканамічных і маральных, несумненна, надаваў гэтым фільмам сацыяльна - філасофскае гучанне.

Цяпер, на хвалі ўзрослай цікавасці да вытворчай тэмы, кінематаграфісты вядуць творчы пошук у розных жанрах. Праблемы бяруцца не з паветра — кінематаграфісты шукаюць апоры для свайх сюжэтаў у смелых гаспадарчых перабудовах, якімі так багата, асабліва апошнім часам, сацыяльна - эканамічнае жыццё СССР. І ўдачы, як правіла, звязаны з тым, што, адчуваючы новыя павароты вытворчай тэмы, сваю галоўную ўвагу фільм факусіруе на чалавеку.

Вось, напрыклад, абаяльны інтэлігент Косцін, якога іграе Барыс Плотнікаў у фільме Эрнеста Ясана «Дублёр пачынае дзейнічаць». Па волі арганізатараў заводскага эксперыменту гэты малады інжынер (з тых, каго прынята называць «радавымі») становіцца на месяц кіраўніком усяго прадпрыемства. Мы з захапленнем сочым за тым, як абуджаецца ў звычайным яшчэ ўчора Косціне творчая індывідуальнасць і як яго нетрадыцыйны падыход да праблем прадпрыемства выкрывае хібы ганебнай гаспадарчай практыкі ранейшага кіраўніцтва. Але фільм не замыкаецца на эканамічнай фактуры, ён гаворыць і аб жыццёвай штодзённасці. Герой падкрэслена негераічны, ён мілы, сарамлівы, у меру няўдачлівы і цалкам пазбаўлены фанабэрыі чыноўніка. Гледачам даецца магчымасць параўноўваць сябе з героем, а таму ім і цікава, што будзе рабіць Косцін. Чалавек і яго справа набылі ў фільме арганічную злітнасць, не страціўшы пры гэтым самацэннасці.

Але вось другі эканамічны эксперымент з другога вытворчага фільма — «Ад зарплаты да зарплаты». Яго задумалі дырэктар фабрыкі і дырэктар банка. Размова ў карціне аб прынцыповым напрамку, звязаным з павышэннем эканамічнай самастойнасці прадпрыемстваў. Аўтарам не адмовіш у добрасумленнасці. Аднак гэтага мала. Сюжэт іх хутчэй па-газетнаму публіцыстычны, чым мастацкі. І мы так марудна дабіраемся да сутнасці эксперымента, вымушаны так удумліва сачыць за развіццём фінансавага крызісу прадпрыемства, што аўтары, відаць, проста не паспяваюць заняць нас характарамі людзей. Ды характараў, па сутнасці, і няма. Але ж, як падказвае вопыт той жа «Прэміі» ці карціны «Спыніўся цягнік», «вытворчы фільм» жыве па тых жа законах, што і любы іншы, — па законах мастацтва, і ў ім перш за ўсё нас цікавіць чалавек. «Няхай дзіўны, няхай неардынарны — называйце як хочаце, — гаворыць малады рэжысёр Мікалай Скуйбін, — але, галоўнае, гэта павінен быць чалавек са сваім унутраным светам».

Такую асобу і выводзіць Скуйбін у сваёй карціне «З жыцця Патапава». Гэты таленавіты вучоны - канструктар фанатычна адданы справе, у імя навукі ён ахвяруе асабістым шчасцем... Але захопленасць навукай не можа тым не менш прымусіць Патапава знізіць свае маральныя крытэрыі. Калі яго сябар трапляе ў бяду, ён кідае ўсё і едзе ратаваць яго. Акцёр Аляксандр Філіпенка знаходзіць тую арганічную меру прафесійнага і чалавечага ў свеім герої, якая дазваляе Патапаву заваяваць давер'е і сімпатыю аўдыторыі.

Цікавыя аранжыроўкі вытворчай тэмы гучаць у апошні час і ў камедыі. Самы, бадай, яркі прыклад — «Блакітныя горы, ці Непраўдападобная гісторыя» грузінскага рэжысёра Эльдара Шэнгелая. Працэс работы з рукапісам маладога пісьменніка ў адным выдавецтве паказаны тут у едкай танальнасці сацыяльна вострага гратэска. Гультайства і бюракратызм, пустая балбатня і дэмагогія — вось мішэні сатырычных стрэл гэтага таленавітага твора, удастоенага Дзяржаўнай прэміі СССР.

У жанры сатыры расказаў малады маскоўскі рэжысёр Яўгеній Герасімаў гісторыю старшыні калгаса Радзівона Шышкіна («Вельмі важная персона») — чалавека неабыякавага, актыўнага, які не жадае мірыцца з руцінай. Вось-вось, здаецца, павінен ён «зляцець» з пасады за сваю «няўжыўчывасць», але яго, наадварот, павышаюць, яшчэ раз і яшчэ... У «звычайным» фільме, напрыклад, у псіхалагічнай драме гэта выглядала б, хутчэй за ўсё, не надта праўдзіва, але тут, ва ўмоўным камедыйным кантэксце, герой па-мастацку пераканаўчы, а ўсё, звязанае з ім, успрымаецца як дакладнае адлюстраванне сучаснай тэндэнцыі ў краіне, калі вылучаюцца, заахвочваюцца людзі па-сапраўднаму ініцыятыўныя, якія не баяцца браць на сябе адказнасць.

Цяжка ўявіць, як далей будзе развівацца вытворчая тэма ў кіно. Адно ясна: без яе ўжо немагчыма ўявіць савецкі экран.

**Рыгор СІМАНОВІЧ.**



**Госцем Саюза пісьменнікаў Беларусі быў кітайскі прафесар, перакладчык славянскіх літаратур, у тым ліку беларускай, Гэ Баоцюань. Дзякуючы яго карпатлівай працы, кітайскія чытачы змаглі пазнаёміцца з кнігамі А. Пушкіна, Т. Шаўчэнкі, А. Блока. Разам з малодшым калегам Гао Манам ён пераклаў зборнік выбраных вершаў Максіма Танка. Пад яго рэдакцыяй і з яго прадмовай у Кітаі выйшла таксама кніга выбраных вершаў Янкі Купалы.**

**У час знаходжання ў Беларусі госць сустрэўся з пісьменнікамі, наведаў літаратурныя мясціны, звязаныя з імёнамі Янкі Купалы і Якуба Коласа, музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, мемарыяльны комплекс «Хатынь», пазнаёміўся з выдатнымі мясцінамі горада-героя Мінска.**

**Ад'язджаючы з Беларусі, Гэ Баоцюань сказаў: «Вялікі кітайскі пісьменнік Лу Сінь гаварыў, што дружбу народаў лепш за ўсё мацаваць праз літаратуру. Я і прыехаў сюды, каб мацаваць гэту дружбу. Мая бліжэйшая мэта — перакласці з беларускай мовы на кітайскую яшчэ адзін зборнік паэзіі вялікага беларускага паэта Янкі Купалы».**

**Л. ЧАРЭШНЯ.**

**НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі.**

**Фота У. КРУКА.**

## СУСТРЭЧА З ЛІТОЎСКІМІ КАЛЕГАМІ

Больш цеснымі і плённымі становяцца сяброўскія сувязі беларускіх кампазітараў і выканаўцаў з калегамі з іншых саюзных рэспублік. Нядаўна ў Літве пабывалі народны артыст БССР кампазітар Анатоль Багатыроў і музыказнаўца Тамара Дубкова.

У Мінску ж адбылася сустрэча з вядомымі літоўскімі выканаўцамі Пятрасам Кунца і Марыетай Азізбекавай, якія паказалі беларускім слухачам новыя творы літоўскіх кампазітараў Валянцінаса Багдонаса і Віктараса Паўшцяліса.

У гутарцы пасля канцэрта абмяркоўваліся праблемы, якія існуюць у музычным мастацтве, у прыватнасці, выкананне музыкі маладых кампазітараў. Акрамя таго, госці з Літвы расказалі, што з творчасці беларускіх кампазітараў яны уключаюць у свой рэпертуар.

**Н. ЗАХАРАВА.**

**У ПАМЯЦЬ ІААХІМА ЛЯЛЕВЕЛЯ**

# *РЭВАЛЮЦЫЯНЕР І ВУЧОНЫ*

У 1786 годзе ў Варшаве нарадзіўся адзін з самых выдатных польскіх грамадскіх дзеячаў і вучоных — Іаахім Лялевель. Усё жыццё гэтага чалавека было цесна звязана з польскім вызваленчым рухам, прадстаўніком самага дэмакратычнага крыла якога ён быў. Ужо ў першых сваіх навуковых працах Лялевель-вучоны заявіў аб сабе як аб сур'ёзным даследчыку-гуманітарыі, які цікавіцца шырокім аспектам праблем гісторыі і культуры. У асяроддзі кніга- і літаратуразнаўцаў ён вядомы і як адзін з першых тэарэтыкаў гэтых сфер ведаў. Яго работы аб кнізе і яе гісторыі аказаліся эпахальнымі, ім наканавана было адыграць вялікую ролю ў станаўленні польскага і сусветнага кнігазнаўства.

Навуковая кар'ера І. Лялевеля пачалася ўдала. У 1804—1808 гадах ён вучыцца ў Віленскім універсітэце, дзе пад кіраўніцтвам прафесара грэчаскай літаратуры Г. Гродэка, які загадваў адначасова універсітэцкай бібліятэкай, знаёміцца і са спецыфікай бібліятэчнай работы. Пасля сканчэння універсітэта І. Лялевель на некалькі год пакідае Вільню (служыць у розных месцах, у тым ліку на Украіне ў вядомым Крамянецкім ліцэі), куды зноў вяртаецца ў 1815 годзе і становіцца намеснікам прафесара гісторыі ў родным яму універсітэце, затым ненадоўга пераязджае ў Варшаву, дзе працуе памочнікам бібліятэкара Публічнай бібліятэкі пры Варшаўскім універсітэце. У 1821 годзе Лялевель яшчэ раз вяртаецца ў Вільню, ва універсітэт. Пасля раскрыцця тайных студэнцкіх таварыстваў яго пазбаўляюць права выкладання. Лялевель цалкам аддаецца палітычнай дзейнасці, прымае ўдзел у падрыхтоўцы паўстання 1830—1831 гадоў, становіцца членам Часовага ўрада. Пасля паражэння па[illegible]ння жыве ў Францыі, дзе ўзначальвае Нацыянальны польскі камітэт, які згуртаваў найбольш дэмакратычныя слаі польскай эміграцыі. У 1833 годзе за апублікаванне адозвы Лялевеля «Да братоў рускіх», у якой змяшчаўся заклік да сумеснай барацьбы супраць самадзяржаўя, ён быў высланы з Францыі і перасяліўся ў Бельгію, дзе не спыняў барацьбы да сваёй смерці ў 1861 годзе.

І. Лялевель—буйны, прызнаны ва ўсім свеце гісторык, заснавальнік рамантычнай школы ў польскай гістарыяграфіі. Яго пяру належаць многія працы па палітычнай гісторыі Польшчы ўсіх часоў, гісторыі польскага сялянства. Яго ж па праву лічаць і піянерам у стварэнні шэрагу дапаможных гістарычных дысцыплін. Работы Лялевеля, прысвечаныя кнізе і бібліятэцы, таксама дастаткова шматлікія. На першае месца сярод іх трэба паставіць яго славутыя «Дзве бібліяграфічныя кнігі» (Вільня, 1823—1826), якія з'яўляюцца своеасаблівай кнігазнаўчай энцыклапедыяй, ледзь ці не першай у той час. У гэтай рабоце Лялевеля чытач знойдзе мноства звестак па гісторыі кнігі, уключаючы і кнігу рукапісную, пазнаёміцца з яго тэарэтычнымі поглядамі кнігазнаўцы, кадзікалага, бібліятэка- і бібліёграфазнаўцы.

Цікавае дзяленне навукі пра кнігу (па Лялевелю «бібліяграфіі»), якое ён прапанаваў у сваёй рабоце. «Бібліяграфія»: «навука аб рукапісах», «навука аб друкаванай кнізе», «навука аб бібліятэчнай кнізе ці бібліятэказнаўству». Падрабязна піша Лялевель пра інкунабулістыку, у полі зроку якой выданні, што выйшлі ў свет да 31 снежня 1500 года. Неабходна адзначыць, што ў «Дзвюх бібліяграфічных кнігах» Лялевель даволі многа месца ўдзяляе ўсходнеславянскім выдаўцам і выданням, у прыватнасці, доктару Францыску Скарыне «з слаўнага горада Полацка», які надрукаваў у пачатку 1520-х гадоў у Вільні першую кнігу на тэрыторыі нашай краіны. Лялевель упамінае нават асобныя экземпляры кніг першадрукара, якія захаваліся, падкрэсліваючы, што яны — «надзвычайная рэдкасць». На гравіраваных табліцах, падрыхтаваных і прыкладзеных Лялевелем да сваёй работы, змешчаны рэпрадукцыі арнаментыкі і шрыфтоў выданняў Францыска Скарыны.

Лялевель планаваў выдаць і трэці том «Дзвюх бібліяграфічных кніг». У яго павінен быў увайсці каталог польскіх інкунабулаў і некаторыя іншыя матэрыялы па гісторыі кнігі і бібліятэк у Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім. Том гэты, амаль падрыхтаваны аўтарам, аднак не быў надрукаваны.

За сваё жыццё І. Лялевель сабраў даволі значную, у некалькі тысяч тамоў кніг бібліятэку, больш правільна, дзве бібліятэкі. Першая збіралася ім да эміграцыі і захоўвалася ў яго брата, другая — ужо ў Францыі і Бельгіі.

200-гадовы юбілей з дня нараджэння Іаахіма Лялевеля стаў вялікай падзеяй не толькі ў навуковым і культурным жыцці Польшчы, але і ўсяго свету. Не выпадкова гэты юбілей урачыста адзначаўся ў канцы мінулага года і ў нашай краіне. У Вільнюсе, напрыклад, у дзяржаўным універсітэце імя В. Капсукаса прайшла спецыяльная навуковая канферэнцыя, прысвечаная жыццю і дзейнасці гэтага выдатнага рэвалюцыянера і вучонага, імя і справы якога так цесна звязаны з гэтым горадам, універсітэтам, гісторыяй вывучэння літоўскай і беларускай культур.

**Юрый ЛАБЫНЦАЎ.**

# КАЛІ ВАС ЦІКАВІЦЬ БЕЛАРУСКАЯ КНІГА...

## У 1987 ГОДЗЕ ВЫДАВЕЦТВЫ РЭСПУБЛІКІ ВЫПУСЦЯЦЬ:

**І. ІГНАЦЕНКА.** «Вялікі Кастрычнік у лёсах беларускага народа». — Мн., «Беларусь».

Кніга акадэміка АН БССР І. Ігнаценкі ўяўляе сабой нарыс гісторыі гераічнай барацьбы беларускага народа за перамогу ідэалаў Вялікага Кастрычніка. Даецца шырокая карціна сацыялістычных пераўтварэнняў у рэспубліцы, паказваюцца дасягненні народа ў эканамічным, сацыяльным і духоўным развіцці за 70 год Савецкай улады. Выданне ілюстравана дакументальнымі фотаздымкамі.

**В. БАРУШКА.** «Беларусь: людзі, падзеі, факты». — Мн., «Беларусь».

Аб вялікіх сацыяльна-эканамічных і культурных пераўтварэннях, якія адбыліся ў Беларусі за гады Савецкай улады. Кніга багата ілюстравана чорна-белымі і каляровымі фатаграфіямі.

**М. ШАМЯТКОЎ, Д. ШАПІРА, І. ДАНУСЕВІЧ.** «Прадукты пчалярства і здароўе чалавека». — Мн., «Ураджай».

Прыведзены хімічны састаў і лячэбныя ўласцівасці розных відаў пчалінага мёду. Шырока асветлены пытанні выкарыстання мёду і прадуктаў пчалярства (праполісу, пяргі, матачнага малачка, кветкавай пыльцы, воску) з лячэбнай мэтай.

**А. АДАМОВІЧ.** «Хатынская аповесць. Карнікі». Аповесці. — Мн., «Мастацкая літаратура».

Гэта кніга — перавыданне атрымаўшых шырокую вядомасць аповесцей Алеся Адамовіча, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР. Выкрывальна-антыфашысцкі пафас аповесцей, іх страснасць у выкрыцці філасофіі фашызму і злачынства робяць іх прыкметнай з'явай у сучаснай савецкай прозе.

«Казкі беларускіх пісьменнікаў». Зборнік (складальнік І. Чаплавоцкая). — Мн., «Юнацтва».

У зборнік увайшлі лепшыя казкі беларускіх паэтаў і празаікаў Я. Коласа, М. Багдановіча, З. Бядулі, В. Віткі, У. Караткевіча і іншых.

Тэматыка гэтых казак вельмі разнастайная — пра смеласць і кемлівасць, пра дабро і зло.

**У. КАВАЛЁНАК.** «Радзіма крылы дала». Дакументальная аповесць. — Мн., «Юнацтва».

Аўтабіяграфічная аповесць нашага земляка, лётчыка-касманаўта, двойчы Героя Савецкага Саюза Уладзіміра Кавалёнка. Малюнкі каляровыя.

**В. ШПАКОЎСКІ.** «З усяго, што пад рукамі». — Мн., «Полымя».

Тэмай кнігі з'яўляецца тэхнічная творчасць дзяцей у любых умовах, часцей за ўсё дома. Усе рэкамендуемыя аўтарам тэхналагічныя прыёмы простыя, даступныя і не патрабуюць дарагіх ці шкодных для здароўя матэрыялаў. Умела выкарыстоўваючы гэтыя прыёмы, можна з падручных сродкаў вырабіць цікавыя мадэлі: напрыклад, плыта Тура Хеердала, судна вікінгаў, розных пабудоў з бярвенняў, фантастычнага ўсюдыхода-вібрахода. Кожны раздзел кнігі прысвечаны мадэлям прыкладна аднаго тыпу, апісанне даецца па прынцыпу ад простага да складанага.

## ГЭТЫЯ КНІГІ ВЫ МОЖАЦЕ ЗАКАЗАЦЬ ПРАЗ НАСТУПНЫЯ ФІРМЫ:

**NETHERLANDS**

«Pegasus Boekhandel»
Leidsestraat 25
1017 NT Amsterdam,

**FINLAND**

«SN — Kiejat OY»
Tolppatie 8
SF-00880 Helsinki

**ENGLAND**

Central Books Ltd.
37 Gray's Inn Road
London W.C. IX 8PS
(Books in English)

Collet's Holdings Ltd.
Denington Estate, Wellingborough
Northants, NN8 2OT

Collet's Russian Bookshop
39 Museum Street
London W.C.1

**SCHWEIZ**

Pinkus Genossenschaft
Froschaugasse 7
8025 Zürich

Buchhandlung A. Francke AG
Postfach 1445
3001 Bern

**AUSTRALIA**

«New Era Books & Records»
64-68 Shepherd Street
Marrickville N.S.W. 2204

**ESPANA**

Libreria Rubinos-1860
Alcala 98
28009 Madrid

**USA**

1. Victor Kamkin, Inc. 12224 Parklawn Drive Rockville, Md. 20852/USA
2. Victor Kamkin, Inc. 149 Fifth Ave. New York, N. Y. 10010/USA
3. Im 'ed Publications 320 West Ol. t. Chicago, 111. 60610/USA
4. «Znanie» Bookstore 5237 Geary Blvd. San Francisco, Calif. 94118/USA

**BRD**

1. «Kubon & Sagner» Postfach 34 01 08 8000 München 34
2. Brücken-Verlag GmbH Postfach 1928 4000 Düsseldorf 1

**ITALIA**

Italia — URSS
Via Edilio Raggio, 1—10
Genova

Italia — URSS
Piazza della Republica 47
Roma

Libreria Edest s.n.c.
Edizioni Estere
Via Cairoli 12/4
16124 Genova

**FRANCE**

Les Livres Etrangers
10, rue Armand ant
Paris 15 France

Librairie du Globe
2, rue de Buci
Paris 6 France

**CANADA**

Progress Books
71 Bathurst St.,
3rd Floor
Toronto, Ontario
M5V 2P6

Troyka Ltd.
College St. 799A
Toronto, Ontario
M6G 1C7

Canadian Importers Co. Ltd.
P. O. Box 1640, 10215-97 St.,
Edmonton, Alberta

Ukrainska Knyha
962 Bloor St. West
Toronto Ontario
M6H 1L6

Librairie Nouvelles
Frontières
185 Rue Ontario
Montreal Quebec
H2X 1H5

People's Co-op Bookstore
353 West Pender St.,
Vancouver 3, B.C. V6B 1T3

## САЧЫЦЕ ЗА НАШАЙ РЭКЛАМАЙ

# ДА ТАЛАША

Музей легендарнага дзеда Талаша, героя грамадзянскай і актыўнага ўдзельніка Вялікай Айчыннай войнаў, створаны ў яго роднай вёсцы Навасёлкі ў Петрыкаўскім раёне.

«...Накінуліся жалнеры на дзеда Талаша і пачалі яго валтузіць, стараючыся паваліць старога. Разгарнуўся дзед, павярнуў сваімі шырокімі плячамі, крутнуўся, і жалнеры паадляталі ад яго, як шчэпкі». Гэтыя радкі з аповесці Якуба Коласа «Дрыгва», у якой пісьменнік расказаў аб подзвігах партызана, успамінаюцца, як толькі ступаеш у двор былой сядзібы дзеда Талаша, якая стала цяпер музеем. Праўда, няма тут стажка сена, з-за якога і адбылася сутычка селяніна з акупантамі, а вось калодзеж — неглыбокі, з кароценькім шастком для вядра — той жа.

Па-ранейшаму малайцавата глядзіць на раку невялікая хатка. На ёй цяпер мемарыяльная дошка: «Тут жыў легендарны партызан Васіль Ісакавіч Талаш (дзед Талаш) 1844—1946 гг.». Новыя ступенькі вядуць у хату. За ўваходнымі дзвярамі ля сцяны драўляны ложак з сяннікам, крыху ўбаку — куфар старадаўняй работы, на ім самавар, з якога любіў піць чай гаспадар. У святліцы на этажэрцы — бюст героя, тут жа шапка з зоркай, на сцяне фатаграфіі, гадзіннік-ходзікі...

В. Зубар, старшыня Петрыкаўскага сельскага Савета, на тэрыторыі якога знаходзіцца вёска Навасёлкі, расказвае аб гісторыі стварэння музея.

— Пасля смерці сына дзеда Талаша ў 1977 годзе, — гаворыць Валянцін Пятровіч, — хата асірацела. Неяк прыехаў у Навасёлкі карэспандэнт мясцовай раённай газеты Ю. Ісаеў. Ведаючы, якой папулярнасцю карыстаецца ў народа дзед Талаш, ён звярнуўся ў сельскі Савет, да адміністрацыі саўгаса «Петрыкаўскі» з прапановай рэстаўрыраваць дом, стварыць у ім музей. Ідэя ўсім спадабалася, і ў хуткім часе знайшлося многа энтузіястаў дапамагчы ў гэтай справе. Сваякі дзеда Талаша перадалі ў музей шэраг яго асабістых рэчаў, фатаграфій, бюст Якуба Коласа, падораны пісьменнікам герою сваёй кнігі. Актыўна ўключыліся ў работу аднавяскоўцы, дапамаглі мастакі.

**У. МАЛІШЭЎСКІ.**

# СТАРЭЙШАЯ ЖЫХАРКА РАЁНА

Родныя, блізкія шчыра павіншавалі нядаўна старэйшую жыхарку Чэрвеньскага раёна пенсіянерку з саўгаса «Ніва» Хрысціну Бараноўскую са 106-годдзем з дня нараджэння. Яна ўсё сваё жыццё аддала працы ў сельскай гаспадарцы. Нарадзіла і выгадавала сямёра дзяцей.

У Хрысціны Фёдараўны шмат унукаў і праўнукаў. Яны ўсе любяць сваю бабулю, з цікавасцю слухаюць яе ўспаміны пра даўнейшае жыццё.

**А. ФУРЫК.**

**«Дэльфін» — так назвалі свой спорткомплекс слуцкія будаўнікі. Зусім нядаўна сюды прыйшлі першыя аматары спорту, а сёння ён вядомы ўсяму гораду. Прымае комплекс не толькі будаўнікоў, але і аматараў фізкультуры з многіх іншых калектываў, школьнікаў — усіх жадаючых з карысцю для здароўя правесці свой вольны час. Штодзённа комплекс наведваюць каля 500 чалавек.**





**НА ЗДЫМКАХ: заняткі ў плавальным басейне; другаразраднік па плаванню шасцікласнік Валодзя КУДЗЁЛКА (злева) з сябрамі пасля трэніроўкі.**

**Фота А. МІКАЛАЕВА.**

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:
МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 172